# НАВІНЫ

Выданьне Арганізацыйнага камітэту.

6'1989

БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»


## УПЭЎНЕНАСЬЦЬ У БУДУЧЫНІ

**Зянон Пазьняк**

Прайшло паўгады з таго часу, як 19 кастрычніка 1988 года быў утвораны Арганізацыйны камітэт /часовы ініцыятыўны цэнтр/ Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне". Прайшло доўгіх паўгады ў надзвычай цяжкіх умовах працы. Толькі 19 лютага мы змаглі нарэшце сабрацца разам з саракатысячнай грамадой на мітынгу ў Менску, дзе побач з афіцыйнымі дзяржаўнымі лунала ў паветры бела-чырвона-белыя сьцягі — нацыянальныя сімвалы нашай слаўнай і пакутнай гістор . Мы ўсе перажылі момант ўзаемаразуменьня і адзінства, момант агульнага лёсу. І гэтае адчуваньне спарадзіла ў душах радасьць і аптымізм, надзею на лепшую долю.

Аргкамітэт БНФ — гэта самастойнае грамадскае ўтварэньне, незалежнае ад якой бы там ні было грамадскай ці афіцыйнай структуры. Установы, арганізацыі, прадпрыемствы, творчыя саюзы, асобныя грамадзяне падтрымліваюць Народны Фронт маральна, удзелам у яго акцыях і праграмах праз утвораныя групы падтрымкі і шляхам дабраахвотных ахвяраваньняў.

Аргкамітэт складаецца з 34 чалавек і мае дэмакратычную структуру кіраваньня, якая ўключае каардынацыйнае /кіраўнічае/ бюро, кантрольна-рэвізійную камісію, што правярае выкананьне рашэньняў Аргкамітэту, і рабочы сакратарыят. Зь ліку сяброў /членаў/ Аргкамітэту ўтвораны розныя камісіі /падрыхтоўкі праграмных дакументаў, рэдакцыйна-выдавецкая і інш./, якія вядуць працу з групамі экспертаў, сьпецыялістаў і г. д. Кіраўнік /старшыня/ Аргкамітэту не абіраецца і пасада яго адсутнічае. Калектыўная кіраўнічая структура ў наяўных грамадскіх умовах больш стабільная і менш датклівая да ціску бюракратыі /што пацьвердзіла і практыка/.

Галоўная задача Аргкамітэту БНФ — арганізаваць масавы дэмакратычны грамадскі рух дзеля ажыцьцяўленьня ідэяў сацыялістычнага абнаўленьня, стварыць праект Праграмы гэтага руху, яго Статут, падрыхтаваць і правесьці Устаноўчы зьезд Беларускага Народнага Фронту. Дзеля гэтага БНФ заклікае арганізоўваць паўсюдна на прадпрыемствах, ва ўстановах, вучэльнях, калгасах, па месцах жыхарства і г. д. групы падтрымкі Народнага Фронту. На сёньняшні дзень па Беларусі створана каля 400 такіх групаў. Большасьць зь іх існуе ў Менску. У руху БНФ ужо ўдзельнічаюць тысячы чалавек. У Менску групы аб'яднаныя па раёнах. У кожным раёне створана Рада ўпаўнаважаных групаў падтрымкі, якая каардынуе працу ў межах раёну.

Ужо напісаны праект Праграмы руху БНФ. У пачатку лютага эканамічны разьдзел праекту Праграмы абмяркоўваўся ў Інстытуце эканомікі Акадэміі навук БССР. Адзначаны яго спрэчныя, на думку некаторых навукоўцаў, палажэньні, слабыя і моцныя аспекты, канстатавана безумоўная карысьць у плане пастаноўкі задачаў і шляхоў іх вырашэньня.

У красавіку шырокае абмеркаваньне матэрыялаў да праекту Праграмы, якія былі надрукаваныя ў "Навінах", распачынаецца ў групах падтрымкі і ў зацікаўленых арганізацыях. Адначасна з абмеркаваньнем дакументаў праводзіцца падрыхтоўка да Устаноўчага Сойму /зьезду/ БНФ. Задача Устаноўчага Сойму — арганізацыйна аформіць рух Беларускага Народнага Фронту, зацьвердзіць праграмныя дакументы, прыняць статутныя палажэньні.

Вельмі важна ўсьвядоміць, што Беларускі Народны Фронт — гэта ня партыя, не закрытая арганізацыя, а дэмакратычны рух, які імкнецца аб'яднаць у сабе ўсе сілы, плыні, таварыствы, людзей рознай сацыяльнай прыналежнасьці, веравызнаньня і нацыянальнасьці, што падтрымліваюць і здольныя практычна ажыцьцяўляць палітычныя прынцыпы гэтага руху. Задача Фронту — палітычна кансалідаваць усё насельніцтва Беларусі на стварэньне сапраўды дэмакратычнай суверэннай Рэспублікі, дзе забясьпечаны правы і паважаюцца інтарэсы кар(э)ннага народу і ўсіх нацыянальных меншасьцяў і групаў, дзе прыярытэтам карыстаецца чалавек працы, творчасьці і справы; дзе кіраўніцтва рэальна абіраецца народам, а не існуе само па сабе.

Беларускі Народны Фронт такім чынам зьяўляецца рухам за перабудову і дэмакратызацыю грамадства і фронтам /сьцяной/ змаганьня з бюракратызмам, сталіншчынай, каманднa-адміністрацыйнай сістэмай, таталітарызмам і рэтраградствам. БНФ ставіць задачу адраджэньня беларускай нацыі на дэмакратычнай аснове, гэта значыць на такім грунце, які забясьпечыць гістарычнае існаваньне і культурнае разьвіцьцё беларускага народа на яго гістарычнай тэрыторыі і гарантуе права свабоднай жыцьцядзейнасьці культураў усім нацыянальным меншасьцям Беларусі.

У партыйна-бюракратычных колах і мала адукаваных пластах грамадства існуе меркаваньне, што не патрэбныя ніякія грамадскія рухі і франты, бо перабудову пачала партыя, а ўсё, што прапагандуюць удзельнікі гэтых рухаў, сказана на XIX партканферэнцыі. Па-першае, перабудову пачала ня ўся партыя, а прагрэсіўныя сілы ў партыі. Па-другое, без падтрымкі народа, без дэмакратычнага руху зьнізу гэтыя прагрэсіўныя сілы ня ў стане самі ажыцьцявіць перамены, бо па-ранейшаму трывалымі застаюцца пазіцыі кіраўнікоў з кансерватыўнымі рэтраграднымі поглядамі ў самой партыі. Таму стварэньне Народнага Фронту ёсьць пільная грамадская неабходнасьць.

Бюракратыя змагаецца з дэмакратычным рухам, які пагражае яе палітычнаму і класаваму пануваньню. Гэтак жа, як і буржуазія, калі пытаньне датычыць яе класавых інтарэсаў, бюракратыя імкнецца перанесьці свой сацыяльны канфлікт з грамадствам у сьферу нацыянальных узаемаадносінаў і зачэскаваць канфлікт сапраўдны, ашукаць народы. Сама ж бюракратыя ў гэты час пачынае выступаць у ролі "міратворцы", паборніцы "інтэрнацыяналізму", каб разам з "нацыяналізмам" задушыць і дэмакратычны рух.

Трэба памятаць, што практычна ўсялякае нацыянальнае пытаньне зьяўляецца вытворным ад пытаньня сацыяльнага. Карэньні нацыяналізму ў сацыяльна-эканамічных узаемадачыненьнях. Неабмежаванае бюракратычнае самаўладства, моцная цэнтралізацыя СССР, бескантрольная дзейнасьць саюзных міністэрстваў аднолькава зьнішчальна адбіліся на гаспадарцы, прыродзе і культуры ўсіх рэспублік і народаў. У тым ліку і рускага. Таму пытаньне рэальнага суверэнітэту рэспублік, эканамічнай самастойнасьці, рэспубліканскага грамадзянства, статусу дзяржаўнасьці нацыянальнай мовы, глыбокай дэмакратызацыі ўсіх сьфераў жыцьця і г. д. зьяўляюцца не "нацыяналістычнымі", "сепаратысцкімі" імкненьнямі і тым больш ня вынікам безадказнай дзейнасьці асобных людзей, як паўсюдна сьцьвярджае ідэалагічная служба партыйнай бюракратыі, а жыцьцёвай неабходнасьцю перабудовы, выжываньня грамадства, існаваньня народаў, разьвіцьця іх эканомікі і культуры.

БНФ "Адраджэньне" выступае за супольнасьць усіх нацыянальнасьцяў, усіх дэмакратычных сілаў Беларусі ў змаганьні за перабудову і дэмакратызацыю грамадства. У гэтым сэнсе становішча ў БССР іншае, чым у прыбалтыйскіх рэспубліках, з таго глеэдзішча, што ў нас не існуе грамадскіх канфліктаў паміж карэнным насельніцтвам і нацыянальнымі меншасьцямі. Таму так званы "інтэрфронт" па ўзоры прыбалтыйскіх у нас быць створаны ня можа. Прынцыпы цярпімасьці і грамадскай талеранцыі ў беларусаў ідуць з культурных традыцыяў гісторыі. Вельмі важна захаваць гэтыя прынцыпы і традыцыі і ўмацаваць іх на шляху да нацыянальнага адраджэньня.

Адзінства ўсіх здаровых, дэмакратычных сілаў у змаганьні за перабудову грамадства — гэта важнейшы прынцып руху БНФ. Праявы нацыянальнай пагарды да іншых народаў, нацыянальны нігілізм, вялікадзяржаўны шавінізм, антысемітызм, партыйны і сацыяльны гегеманізм і агрэсіўнасьць несумяшчальныя з ідэямі і дзейнасьцю Беларускага Народнага Фронту.

Зараз наша беларускае грамадства культурна разьяднанае. Дзесяцігодзьдзі бюракратычнага пануваньня, запалохваньня, рэпрэсій, генацыду; задушваньне жывых праяваў нацыянальнай самабытнасьці, адлучэньне ад праўдзівай гісторыі, ліквідацыя беларускамоўнай вышэйшай і сярэдне-прафесійнай нацыянальнай школы і амаль цалкавітая ліквідацыя беларускай агульнаадукацыйнай

(Працяг на стар. 2)

(Працяг са стар. 4)

## З ПАЧЫНАМ

а выкарыстаньне такіх выданьняў і эмблемаў, зьмест якіх "накіраваны на нанясеньне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, а таксама правам і законным інтарэсам грамадзян." Нічога ня скажаш, "канкрэтная" фармулёўка. Хто будзе вызначаць, што наносіць шкоду, а што не? Ці не занадта шырокія межы меркаваньня? І што гэта за новаўводзіны — "дзяржаўны парадак"?

Што датычыць выхадных дадзеных друкаваных выданьняў, то ніводная рэспубліканская газета ня мае іх у такой колькасьці, на якой настойваюць аўтары апублікаванай у прэсе інфармацыі пра новыя ўказы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

У цэлым, дадаткі да артыкулаў $167^2$ і 172 Кодэксу БССР аб адміністратыўных праваапарушэньнях здольныя толькі ўзмацніць той стан маральнай ізаляцыі "вярхоў" ад значнай часткі насельніцтва Рэспублікі, які захоўваецца з восені мінулага году.

АД РЭДАКЦЫІ. Паўстае ўражаньне, што арт. $167^2$ фармуляваўся ці то ў разьліку на юрыдычную цямноту грамадства, ці то юрыдычна цёмнымі людзьмі. Там ідзе гутарка пра рэгістрацыю сьцягоў і г.д. у "адпаведным парадку". Але ж "адпаведны парадак" рэгістрацыі вызначаны толькі Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савету БССР ад 9 красавіка 1981 г. "Аб флагах і вымпелах дзяржаўных і грамадскіх органаў, арганізацый Беларускай ССР і іх службовых асоб"; гэта значыць, што прыватная асоба, каб і хацела, ня зможа зарэгістраваць "ва ўстаноўленым парадку" нейкія свае сьцягі з тае элементарнае прычыны, што "устаноўленага парадку" няма і быць ня можа! Каб устанавіць нейкі "парадак рэгістрацыі сьцягоў і вымпелаў, якія жадаюць узьняць прыватныя асобы", давядзецца вырашаць, прыкладам, такія пытаньні: лічыць або не сьцягам анучку на дубцы, узьнятую дзецьмі над дваровай альтанкай падчас гульні ў піратаў; што рабіць з грамадзянінам краіны Папуа-Новая Гвінея, які прыехаў да нас са сваім дзяржаўным сьцягам, у нас, натуральна, не зарэгістраваным, і г. д.

Каментуючы новы Указ, пракурор БССР Г.Тарнаўскі асабліва спыняецца на бела-чырвона-белым сьцягу і гербе "Пагоня", пагражае адпаведнымі санкцыямі людзям, якія публічна ўздымаюць нашыя нацыянальныя сімвалы. Але ён робіць гэта беспадстаўна, бо ў БССР, як вынікае з пададзенага вышэй, рэгламентуецца ТОЛЬКІ выкарыстаньне сімволікі арганізацыямі і ўстановамі, але НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ — прыватнымі асобамі, якія маюць свабоду выбару сімволікі.

Што да зьменаў у заканадаўстве, скіраваных на задушэньне незалежнай прэсы, дык увесь іхні "цымус" — у патрабаваньні, каб выданьне мела "выхадныя зьвесткі", а ў гэтых зьвестках, наміж іншага, г.зв. рэгістрацыйны нумар. Неабазнанаму і няўцям, што тут маецца на ўвазе нумар цэнзара...

# ГОСЬЦЬ З АТОЛІНА

У рэдакцыю "Навінаў" зьвярнуўся чытач... Так, не зьдзіўляйцеся, ёсьць і ў нашай газеты сваё бюро скаргаў. Людзі нясуць свой боль, свае крыўды да нас, калі несьці іх ужо няма куды. Пазьбіваўшы ногі ў блуканьнях па ўстановах, судах і рэдакцыях, яны гавораць: "Надрукуйце маю гісторыю, бо ніхто мне ўжо не дапамагае. Гэта нават добра, што ваша газета — неафіцыйная. За тое яе і баяцца бюракраты, што вам людзі вераць.."

Віктар Прохараў працаваў у падсобнай гаспадарцы ўпраўленьня справамі ЦК КПБ у Атоліне. Ёсьць такі пасёлак побач зь Менскам. І ёсьць такая гаспадарка ў ЦК. Толькі магутныя прадпрыемствы маюць свае падсобныя гаспадаркі, дзе вырошчваюць садавіну, гародніну, парсючкоў для спатоленьня сваіх супрацоўнікаў. ЦК таксама мае. І пашу, і сад, і гароды. І лес, бадай што самы прыгожы сярод усіх лясоў вакол Менску. Не, я не перабольшваю. Гэты лес калісьці належаў князям Чэрскім. З тае пары ў ім захаваліся магутныя яліны, піхты, усялякія рэдкія дрэвы. Магчыма, мы нават павінны сказаць "дзякуй" за тое, што гэты прыгожы куток быў загароджаны дротам і застаўся амаль не кранутым. Уявіце, калі б сюды пачаў езьдзіць наш просты народ зь яго невысокай экалагічнай культурай! Забрудзілі б запаветны лес, пачалі б лавіць рыбу ў сажалках /не для таго ж сюды штогод прывозяць малькоў карпа/, а яшчэ горш — палезьлі б у сад, які на камуністычных суботніках садзілі супрацоўнікі ЦК. А так -- ціхамірна. Міліцыянер на варце. Чорныя "Волгі" бясшумна пад"язджаюць. Любата.

Зрэшты, Віктар Прохараў у Атоліна на "Волзе" ня езьдзіў. Дагэтуль працаваў ён у Менску, на прадпрыемстве, і грошы атрымліваў неблагія. Вось толькі кватэры сваёй не было. Праблема? Яшчэ якая. Сустрэў аднойчы сябра, а той параіў яму працу ў гаспадарцы Атоліна. Маўляў, сам ведаеш чыя яна, кватэры там хутка атрымліваюць; зьвяду цябе з дырэктарам, ты мужык цёрты, культурны, з вышэйшай адукацыяй, там такія патрэбны.

І сапраўды, знаёмства адбылося. Аляксей Іосіфавіч Мленік, у тыя часы дырэктар Атолінскага "маёнтку", паабяцаў у хуткім часе кватэру. Віктар кінуў, як у песьні Высоцкага, свой завод /ён толькі потым зразумее, што "был не вправе"/ і ўладкаваўся загадчыкам кацельнай. Езьдзіў у Атоліна амаль год /лічы, што і ўсе выхадныя, бо ў Мленіка "рэжым" быў строгі -- загадаў, і, хочаш ня хочаш, павінен у нядзелю працаваць/. А прыкладна праз год дырэктар выклікае Прохарава і радуе яго зьвесткай: будзем даваць табе кватэру, хутчэй выпісвайся і нясі патрэбныя паперы. Выпісваюць у нас, як вядома, хутка, ня тое што прапісваюць. Але ўсё роўна не пасьпеў Прохараў. Ці дырэктар вырашыў не сьпяшацца? Сапраўды, за якія такія гераічныя ўчынкі хатай праз год узнагароджваць? Абмежаваўся такім міні-варыянтам: прапісаў Прохаравых у пакой, дзе жыў мясцовы міліцыянер, а пасяліў у пансіянаце ЦК КПБ -- не выпаняць жа з занятага пакою прадстаўніка ўлады. Прохаравым сказалі: пачакайце, налета кватэра вам будзе абавязкова! Але праходзіў год, другі, будаваліся новыя дамы, а яны ўсё жылі сярод адказных супрацоўнікаў у пансіянаце. Нічога, звыкліся. Спачатку зь імі не віталіся, дзеці "адказных" іх дачку клікалі не інакш, як "калхозьніца", а потым неяк прыцерліся, нават з кімсьці з суседзяў пасябравалі.

Ці мо гэта ім так здавалася?.. Ва ўсялякім разе, з той-іншай нагоды /нешта адрамантаваць, ці яшчэ што/ суседзі Прохаравых не цураліся. Магчыма, з-за гэтых знаёмстваў, з таго, што па-свойску стаў зь некаторымі "адказнымі", страціў Прохараў пільнасьць, забыўся, у якой фірме працуе. Спачатку з сынам Мленіка стаў трымаць сябе надта шчыра -- то на якую яго хібу ў працы зьверне ўвагу, то скажа, маўляў, нельга за бацькавай сьпіной хавацца. Потым і самому Мленіку стаў пярэчыць. Загадалі Прохараву сачыць за тэхнікай бясьпекі, а ён як убачыў, што гэтай бясьпекі наогул няма, што сам жа дырэктар сваімі загадамі вымушае яе парушаць, -- пачаў пратаколы пісаць, на планёрцы пытаньні ўзьнімаць. Відавочна, такі "слуга" быў "гаспадару" не патрэбны. З кагорты "сваіх людзей" Прохарава выключылі. Заставалася толькі чакаць, калі чалавек спатыкнецца. Спатыкаюцца ў нас часьцей за ўсё на трох рэчах: на гарэлцы, на жаночым пытаньні і яшчэ на палітыцы. Палітыка адышла, здаецца ўбок: тады ў 88-ым годзе, ёю шмат хто займаўся, але толькі ня Прохараў. Застаецца гарэлка і жанчыны. Вось тут і падставіўся наш герой амаль класічна: да яго прыехала былая жонка, адбылася цяжкая размова, у выніку Прохараў так разьнерваваўся, што не пайшоў на працу і выпіў. На працы спахапіліся, паслалі ганца, ганец далажыў усё, як было, прыйшла камісія. Склалі акт. Усё. Улічваючы, што гэта быў ужо другі выпадак, звольнілі па артыкуле 33 пункт 4. Паколькі займаў "службовую кватэру" /дарэчы, пансіянат ЦК КПБ гэта не службовае жыльлё, і не "общага", а невядома што/, Менскі раённы суд, у які зьвярнулася гаспадарка "Атоліна", пастанавіў сям"ю Прохаравых з пансіяната высяліць. Куды? Гэтага ў рашэньні суда ня сказана. Высяліць, і ўсяе справы. На вуліцу. Магчыма, вуліцу Карла Маркса, дзе ўзвышаецца ўсім вядомы будынак -- "крэпасьць", мо яшчэ куды. Дзеля справядлівасьці трэба падкрэсьліць, што калі Прохаравы зьвярнуліся з касацыйнай скаргай у Менскі абласны суд, ён не пацьвердзіў рашэньне райсуда ў частцы высяленьня. Я прысутнічаў на гэтым пасяджаньні і бачыў, што судзьдзі

рабілі сваю справу дасканала і прынцыпова. На іх, як бачым, не падзейні-

(Працяг на стар. 6)

